# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamlennį**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, pahonia.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 6 (616)**
**Чэрвень 2017 г.**


## Другое выданьне кнігі В. Кіпеля “Беларусы ў ЗША”

У Менску 12-га траўня сёлета выйшла другое выданьне стаўшай ужо славутай і клясічнай кнігі “Беларусы ў ЗША” аўтарства Вітаўта Кіпеля. Падрыхтоўка гэтага выданьня заняла некалькі год, і ў ёй удзельнічалі, акрамя самога сп. Кіпеля, таксама сп. Лявон Юрэвіч і сп-ня Натальля Гардзіенка. Выданьне зьявілася акурат пад 90-я ўгодкі аўтара, грамадзкага і культурніцкага дзеяча ня толькі беларускай грамады Амэрыкі, але й Беларусі наагул, які нарадзіўся ў Менску 30 траўня 1927 года.




Першае выданьне кнігі па-беларуску выйшла ў 1993 годзе з дапамогаю сп. Сяргея Шупы і адразу прыцягнула зацікаўленую ўвагу чытачоў, што дасюль амаль ня мелі інфармацыі пра суродзічаў за акіянам, або атрымлівалі яе ў скажоным, перакручаным выглядзе камуністычнай прапаганды пра “саўдзельнікаў у злачынствах”. Затым у 1999 годзе ў Амэрыцы выйшла выданьне кнігі па-ангельску. І вось ажыцьцёўлена другое беларускае выданьне. У параўнаньні да папярэдняга, новае выданьне значна пашыранае, у ім болей за 600 старонак, і ў яго ўключана найноўшая інфармацыя, перапрацаваныя некаторыя разьдзелы, зьмешчана больш дакумэнтаў і фотаматэрыялаў. Трэба ўлічваць, што ўвесь час пасьля 1993 года эміграцыя зь Беларусі ў Амэрыку пашыралася і даволі інтэнсіўна працягваецца ў цяперашнім часе. Гэта таксама знайшло адлюстраваньне ў новай кнізе.

Спадзяемся, што выданьне знойдзе сваіх адданых чытачоў сярод маладзейшага пакаленьня беларусаў, як у ЗША, так і на Бацькаўшчыне, і што для іх будзе даступнае таксама электроннае выданьне кнігі, якая адлюстроўвае захаваньне і пашырэньне беларускай прысутнасьці ў Амэрыцы.

Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне “Пагоня” плянуе на сваім чэрвеньскім сходзе 10 чэрвеня арганізаваць сустрэчу з аўтарам кнігі сп. Вітаўтам Кіпелем, каб правесьці гутарку пра кнігу, а таксама адзначыць юбілей выбітнага навукоўца і грамадзкага дзеяча.

***Віталь ЗАЙКА***

## Запрашаем на Купальле

Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне “Пагоня” запрашае ўсіх зацікаўленых разам адзначыць гэтую старадаўнюю рамантычную традыцыю ў парку **Ward Pound Ridge** у штаце Нью-Ёрк.

Сьвята пачнецца ў суботу **24 чэрвеня** прыкладна а **7-й** гадзіне вечара і прадоўжыцца цягам ўсёй самай кароткай ночы года, да **11-й** гадзіны раніцы **25 чэрвеня**.

Дазвол на імпрэзу выдадзены ад **11:00 раніцы 24-га чэрвеня** да **11:00 раніцы 25 чэрвеня**.

**Адрас:** ***Ward Pound Ridge Reservation in Cross River, NY 10518***.

**Тэлефон адміністрацыі парку** (да 5-й гадзіны) **914-864-7317**.

**Сайт парку**: ***http://parks.westchestergov.com/ward-pound-ridge-reservation***

**Мапы**: ***http://wcgis.maps.arcgis.com/apps/MapTour/index.html?appid=eb6a2bbf59b74b289dd05baa843cc3f6***

Шукайце паляну з хаткамі-навесамі (shelters) № 1, 2, 3 і 4. Хатка № 1 адведзеная для арганізацыі Купальля, а № 2, 3 і 4 можна займаць, калі плянуеце гатаваць ежу і начаваць.

Хаткі выглядаюць так: тры каменныя сьцяны і дах, падлога - пясок, ёсьць грылі. Умовамі парку колькасьць удзельнікаў абмежаваная да 40 чалавек.

**Даезд аўтам:** ***Route 35*** and ***121 South***, Cross River.

**Цягніком:** ад станцыі ***Grand Central*** да прыпынку ***Katonah*** (прыкладна гадзіна часу), далей 10 хвілін язды на аўта ад станцыі, варта дамовіцца загадзя, каб вас падвезьлі.

Кошт імпрэзы **$25** дарослым, **$10** дзецям.

Плата за ўезд у парк да 5-й гадзіны вечара **$8** з кожнага аўта ў незалежнасьці ад колькасьці пасажыраў, і бясплатна пасьля 5-й гадзіны вечара.

# Травеньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 13 траўня, у Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў чарговы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку, для тых хто першы раз прыйшлі на сход, старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка распавёў пра яе дзейнасьць, мэты і прынцыпы.

Сп. Віктар Едзіновіч выступіў з кароткай, але вельмі зьмястоўнай і цікавай прэзэнтацыяй пра паўстаньне 1831 года (Лістападаўскае паўстаньне), пра якое няшмат цяпер вядома. Ён акрэсьліў храналёгію і ход паўстаньня, удзел у ім беларусаў і асабліва спыніўся на асобе Эміліі Плятэр, што зрабілася сымболем польскага вызвольнага руху, але, як і Тадэвуш Касьцюшка, таксама належыць двум народам, польскаму і беларускаму.

Затым адбылася гутарка-прэзэнтацыя фотамастака Алеся Крыштаповіча. Напачатку сп. Крыштаповіч распавёў пра сябе, пра вучобу ў Менску і захапленьне фатаграфіяй. Пасьля заканчэньня тэхналягічнага тэхнікуму ў Менску быў мабілізаваны ў савецкае войска, служыў у Сярэдняй Азіі. Потым быў пасланы ў Аўганістан, служыў у Дар-уль-Амане, Хосьце, Кабуле. “Здавалася, што тая сытуацыя ня скончыцца ніколі, тое напружаньне, адчуваньне свайго існаваньня сярод народу, які ўспрымаў савецкіх жаўнераў як ворагаў. Таксама былі відавочнымі хібы сыстэмы савецкай акупацыі, абмежаванасьць і хамства каманднага складу, затурканасьць шараговых байцоў, якім не прадугледжвалася месца сваёй думкі, праяўляць ініцыятыву”. Прамоўца ўзгадаў выпадак з камандзірам, які ў адказ на запыт пра інфармацыю, што патрэбная была для выкананьня абавязкаў, пагражаў аддаць пад трыбунал за “намер скрасьці ваенную таямніцу”! Але сярод афіцэраў былі й нармальныя людзі; праз аднаго зь іх удалося атрымаць высланыя бацькамі фотаапарат і фотаматэрыялы. Стаў рабіць здымкі, фатаграфаваў сяброў, аўганцаў і сцэны на вуліцах, але ўсё гэта трэба было рабіць цішком, хаваючыся ад начальства. Зробленыя здымкі й нэгатывы ўдалося правезьці назад у СССР.

Затым фотамастак працаваў у Музэі народнай архітэктуры й побыту ў Строчыцах, актыўна здымаў – былі часы перабудовы і беларускага нацыянальнага адраджэньня 1980-х. Ён публікаваў свае здымкі ў газэтах “Наша Ніва”, “Свабода”. Хадзіў на акцыі “нефармальных”, як тады казалі, арганізацыяў, здымаў дзеячоў нацыянальнага руху, у тым ліку такіх вэтэранаў, як Зоська Верас, і маладых адраджэнцаў. Стаў спэцыялізавацца на жанры партрэту. Цікавіла выяўленьне ўнутранай псыхалягічнай сутнасьці асобы праз мастацтва партрэту. Шмат фатаграфаваў у Беларусі і працягнуў гэтую дзейнасьць, апынуўшыся напачатку 1990-х гадоў у Амэрыцы. Тут таксама цікавіць асоба, характар і кантэкст.



*Алесь Крыштаповіч дэманструе свае працы*

Далей прамоўца спыніўся на сваім амэрыканскім пэрыядзе жыцьця і творчасьці. Адною з музаў фотамастака, прысутнай на шмат якіх творах, стала кампазытарка і сьпявачка Вольга Казак-Анлар. Ён таксама выказваў свае думкі наконт сучаснага стану фотамастацтва і стаўленьня да яго грамадзтва, згадаў творчасьць фотамастачкі Вівіян Маер. Сп. Крыштаповіч удзельнічаў у шматлікіх конкурсах, мае прэстыжныя ўзнагароды. Гутарка фотамастака ілюстравалася слайд-паказам праз праектар.

Пасьля сп. Алесь, што прыехаў зь Віцебска, падзякаваў “Пагоні” за дапамогу і спагаду, падкрэсьліўшы важнасьць ўзаемадапамогі беларусаў удалечыні ад Бацькаўшчыны. Ён заклікаў прыняць удзел у інтэлектуальнай гульні МозгаБойня. Затым прысутныя мелі нагоду пашырыць і паглыбіць знаёмствы пры сьціплых пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**

# “Тое, што маю кнігу ацанілі – гэта заслуга і “Беларуса”

Сёлета 26-га сакавіка я выпадкова, але не бяз радасьці, спаткаў на акцыі “Праскі Эўрамайдан” беларускага пісьменьніка, рэгулярнага аўтара альманаха “Беларус” і ляўрэта прэміі Гедройца 2016 года Макса Шчура. Тады ж мы дамовіліся зь ім пра гутарку, якая і адбылася празь некалькі дзён у адной з праскіх кавярняў.

***Мы з Вамі сустрэліся ў цэнтры Прагі, дзе праходзіла акцыя салідарнасьці зь Беларусьсю і Украінай, актыўным удзельнікам якой Вы былі. Чаму Вы вырашылі прыйсьці і падтрымаць яе?***

Ні я, ні іншыя беларусы сёньня ня могуць ігнараваць тых падзеяў, якія адбываюцца ў нас на радзіме. Асабліва тыя, хто эміграваў з палітычных прычынаў, як я – рэжым Лукашэнкі ўжо больш за 20 гадоў, на жаль, ёсьць часткаю майго жыцьця. Таму мяне непасрэдна тычацца тыя падзеі, што адбываюцца ў Беларусі, і ва Ўкраіне таксама, аднак акцыі салідарнасьці з Украінай праходзяць часьцей, і я таксама калі-некалі да іх далучаюся. Вельмі прыкра, што з часоў маёй маладосьці палітычная сытуацыя ў Беларусі не зьмянілася. У сярэднім, кожныя пяць гадоў, назіраючы за разгонам масавых акцый пратэсту ў Беларусі, я перажываю гэткае непрыемнае “дэжа-вю” і не магу ня

***заканчэньне на бачыне 3***

## Тое, што маю кнігу ацанілі - гэта...

заканчэньне з бачыны 2

думаць: калі б я знаходзіўся сёньня ў Беларусі, мяне, напэўна, таксама арыштавалі б разам зь цяперашнімі маладымі людзьмі. У такія моманты ўзьнікае амаль фізычная патрэба ня толькі віртуальна, але і рэальна выказаць сваю салідарнасьць з аднадумцамі, з затрыманымі, асабліва з моладзьдзю.

***Ваш раман "Завяршыць гештальт" летась уганаравалі прэстыжнай літаратурнай прэміяй Ежы Гедройца. Якой была Вашая рэакцыя, і што Вам, як аўтару, дала гэтая прэмія?***

Кажучы пра прэмію Гедройца, я мушу перадусім падзякаваць украінскім сябрам за тое, што мая кніга наагул выйшла друкам – а менавіта ў выдавецтве "Крок" у Тэрнопалі (Заходняя Ўкраіна – А. П.). Без выданьня кнігі на паперы я ня мог бы падаць заяўку на прэмію, таму я шчыра ўдзячны за гэта выдаўцу і паэту Юрыю Завадзкаму. А таксама свайму сябру беларускаму пісьменьніку Сяргею Прылуцкаму, які ўжо доўгі час жыве ў Кіеве і які нас зь Юрыем пазнаёміў. Сам факт таго, што кніга выйшла і трапіла ў Менск, быў для мяне цудам.



*Пісьменьнікі і аўтары альманаха "Беларус" Макс Шчур і Алег Паўліў*

Другім, яшчэ большым цудам, стала тое, што кнігу ня толькі заўважылі, але і ацанілі, так бы мовіць, "па максымуме". Ніхто ня быў гэтым зьдзіўлены больш за мяне самога. Рэч у тым, што я досыць рана зьехаў зь Беларусі, не пасьпеўшы зрабіць сабе нейкае "імя" – я нават да гэтага і не імкнуўся, мала друкаваўся, ня меў фактычна ніякіх кантактаў у колах тагачасных маладых літаратараў, якія сёньня ўжо, што называецца, "усё вырашаюць"... Ад прыроды я не "тусоўшчык" – прынамсі, у тым, што тычыцца літаратуры. Магчыма, гэтым тлумачыцца ў тым ліку тое, што выбралі менавіта мяне: я, так бы мовіць, нэўтральная асоба, якая ні ў кога не выклікае асаблівых эмоцый – ні станоўчых, ні адмоўных.

Але ж уручэньне прэміі, я спадзяюся – гэта ня толькі нейкія там закулісныя гульні, пра якія пішуць кожны год тыя, хто абураны яе вынікамі. Калі меркаваць паводле чальцоў журы, то я быў рады атрымаць гэтую ўзнагароду менавіта ад іх – такіх паважаных мною і пры гэтым розных паводле поглядаў і густаў людзей, як Ігар Бабкоў, Сяргей Дубавец, Людміла Рублеўская, Ганна Янкута. Хацелася б, каб прэмія існавала і надалей, каб не атрымалася, як з прэміяй імя Янкі Юхнаўца, якую я атрымаў і якая потым некуды зьнікла.

Калі казаць пра наступствы прэміі Гедройца для мяне як аўтара, то я ўсё яшчэ іх чакаю – што чытачы пачнуць чытаць, а выдаўцы выдаваць мае творы, што крытыкі напішуць на іх рэцэнзіі... Прайшло ўжо паўгода з моманту атрыманьня прэміі, і пасьля кароткага "ажыятажу" – ну, мне так здалося, бо я тут не разбэшчаны ўвагаю з боку "мэтраполіі", – зноў надыйшла цішыня.

Пакуль што найлепшая, на маю думку, рэцэнзія на кнігу выйшла зноў жа ва Ўкраіне, яе напісала Ганна Улюра. Ня ведаю, чым гэта патлумачыць: магчыма, там, у параўнаньні зь Беларусьсю, публіка ўсё-ткі мысьліць больш разьняволена, паза стэрэатыпамі.

***Якія, на Вашую думку, сёньня і, галоўнае, у будучыні, тэндэнцыі, пэрспэктывы, градацыі ў тарашкевіцы, таму што Вы пішаце свае творы менавіта на тарашкевіцы, Вам не здаецца, што яна апошнім часам, на жаль, зноў у заняпадзе, выходзіць з моды?***

Так, у Беларусі. Там прафэсіяналы пайшлі на такі кампраміс з уладамі ў сувязі з законам, які дазваляе выкарыстоўваць у друку толькі афіцыйны правапіс. Пэўная рацыя ў гэтым ёсьць: беларускую мову ў нас і так блага ведаюць, а тут яшчэ сытуацыя ўскладняецца двума правапісамі... Усё-ткі ў школе вучаць так званай наркамаўцы, якая прасьцейшая і звыклейшая для бальшыні. Што да мяне, то я трымаюся тарашкевіцы з такіх сэнтымэнтальных прычынаў – гэта з майго боку праява настальгіі па 90-х г.г., калі выйшла паэма Сяржука Сокалава-Воюша "Ь" (чым перадаю яму прывітаньне), калі саму беларускую мову залічвалі ў ахвяры сталінскіх рэпрэсій, калі на тарашкевіцы выходзілі апазыцыйныя газэты – "Свабода", "Навіны БНФ", "Наша Ніва", "Навінкі". Сёньня на літаратурным сайце "ЛітРАЖ", дзе я адзін з рэдактараў, мы публікуем тэксты ня толькі на трох мовах – беларускай, украінскай, расейскай, – але і двума правапісамі. То бок ніякіх абмежаваньняў няма. Я лічу, што пакуль тарашкевіцай будуць рэальна карыстацца беларусы (прынамсі ў дыяспары, на Радыё Свабода, у альманаху "Беларус"), яна будзе жыць далей.

***Вы ўжо цягам шэрагу гадоў супрацоўнічаеце з альманахам "Беларус", які рэдагуе сп. Марат Клакоцкі. Што для Вас азначае гэтая супраца, і ці будзе яна працягвацца?***

Безумоўна, будзе – я на гэта вельмі спадзяюся. "Беларус" – гэта такая аддушына для мяне, адзінае выданьне, дзе я магу друкавацца хай раз на год, затое рэгулярна. Рэгулярнасьць досыць важная рэч для аўтара, таму я ўспрымаю кожны выпуск альманаху як выніковы для сябе і стараюся даваць туды самае асабістае, самае нестандартнае і адметнае з таго, што напісаў за год. Да таго, як я атрымаў у 2007 годзе зь Нью-Ёрку першы нумар альманаху з маімі тэкстамі, я знаходзіўся ў такім андэргraўндзе – а тут ці не ўпершыню адчуў сябе сапраўдным пісьменьнікам. Думаю, што маё адчуваньне было падобнае да таго, якое меў, паводле ўласных словаў, Чарльз Букоўскі, калі ў маладосьці атрымаў нумар прэстыжнага "Atlantic Monthly" са сваім апавяданьнем. Вакол альманаху згуртаваныя цікавыя аўтары, і я магу толькі парэкамэндаваць беларусам замежжа, асабліва пачаткоўцам, дасылаць туды свае творы. На шчасьце, альманах у Беларусі чытаюць, у тым ліку крытыкі – скажам, пра мяне да прэміі Гедройца згадвалі перадусім у сувязі з аглядамі "Беларуса". Праз усё гэта пераацаніць важнасьць "Беларуса" для мяне немагчыма – я безь яго сябе не ўяўляю. За што і дзякую яго выдаўцу Марату Клакоцкаму. Тое, што ў Беларусі ацанілі эмігранцкага аўтара – гэта ў тым ліку заслуга ягонага альманаху.

***Алег ПАЎЛІЎ***

*Адмыслова для "Вестак і Паведамленьняў"*
*Прага – Нью-Ёрк*

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Дэ-генератыўная грамацíка

Куды не паедзеш, у тым ліку ў Амэрыку, бачыш, як хутка беларусы засвойваюць замежныя мовы. Вельмі часта гэта адбываецца за кошт таго, што родная мова не займае ў іхных галовах звычайнага для сябе месца. Але гэта таксама ўплывае і на паверхоўнасьць вывучаных моваў, паколькі засвойваюцца яны без аднясеньня да шкелету-асновы, як казаў бы той Навум Хамскі. Таму працэс адбываецца хутка, зазвычай не чуваць ніякага акцэнту, бо ніякага акцэнту ў іх ніколі і не было.




Аднак калі капнуць глыбей, то тут ужо пачынаюцца праблемы. Напрыклад, выбар словаў (word choice). Сёньняшнія беларусы, як прадстаўнікі нацыі бяз мовы, любуюцца ў кантэкстуальна смешных, а то і слэнгава дурнаватых словах: “dude”, “what’s up, man”, “awsome” і г. д. Без крытычнага асэнсаваньня бяруць ў свой слоўнікавы запас фразы-пустышкі тыпу “I coudn’t care less”, або словы паразіты тыпу “like”, “you know” — бо ў іх проста няма да чаго гэтых словаў аднесьці. Як зразумець усю брутальнасьць паўсюднага “f..k you”, калі няма тых шаляў, на якія можна было б пакласьці незразумелае слова, фразу, праклён. Беларусы, калі вывучаюць замежную мову, то тут жа пачынаюць думаць на ёй, бо на сваёй мове ніколі ня думалі, нават калі і лічылі, што на ёй гаварылі... Яшчэ страшней тыя беларускамоўныя беларусы, у якіх з вывучэньнем моваў пэўныя інтэлектуальныя складанасьці, і яны зь вялікай асалодай пачынаюць цягнуць у сваю і без таго ўжо забруджаную мову розную мадняціну: тру-беларус, траблы і т. п.

Наогул, беларуская і амэрыканская (без памылкі) мовы зусім розныя, але пра гэта можа наступным разам. Peace, I’m out.

**Віталь ВОРАНАЎ**

### Уплаты ў Згуртаваньне Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:

У. Бужынскі ............60
В. Бурмака ............60
М. Бялко ............60
Д. Гарбач ............60
А. Голубеў ............60
М. Івашчанка ............60
І. Кудзінаў ............60
Я. Курчэўская ............60
І. Маладзёнаў ............60
З. Масарноўскі ............60
У. Салагубік ............60
А. Сергіеня ............60
І. Чарнова ............60
А. Шоцік ............60

**Усім шчыры дзякуй!**

### Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **10-га чэрвеня 2017 года** на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.

Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца на сайце **pahonia.com***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

В. Бурмака ............30
М. Бялко ............30
Д. Гарбач ............30
А. Голубеў ............30
М. Івашчанка ............30
І. Кудзінаў ............30
Н. Лазоўская ............30
І. Маладзёнаў ............30
З. Масарноўскі ............30
У. Салагубік ............30
А. Сергіеня ............30
І. Чарнова ............30
А. Шоцік ............30

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня”** *Viktar Yedzinovich.*

*Паважаныя **А. Аверын, Ю. і І. Валковіч, Н. Матыс, А. Пашэнка, Д. Сілко, Д. Талочка, Ю. Шкода**, калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі ($30) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

*Падпіску таксама можна аформіць на сайце **www.e-krama.com***